# Беларус

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№. 336
Год выд. XXXVI

Чэрвень
1987 г.


## АДКАЗ АБАРОНЦАМ МОВЫ

### *Я. САКАЛОЎ ЖАНГЛЮЕ СТАТЫСТЫКАЙ*

Пачатая мінулае восені беларускай інтэлігенцыяй абарона роднае мовы выклікала нарэшце адказ з боку кіраўніцтва кампартыі Беларусі. Выступаючы на 6-м пленуме ЦК КПБ напрыканцы сакавіка сёлета, першы сакратар рэспубліканскае партыйнае арганізацыі Яфрэм Сакалоў, прызнаўшы, што ўжываньне беларускае мовы да пэўнай меры звузілася, катэгарычна запярэчыў цьверджаньням крытыкаў, што ў гэтай дзялянцы ёсьць праблемы. «Апошнімі гадамі, — сказаў Сакалоў, — у выніку свабоднага волевыяўленьня працоўных рэспублікі намецілася некаторае звужэньне прымяненьня беларускай мовы. Сёйтой з творчых і навуковых работнікаў пасьпяшаліся зрабіць з гэтага вывад аб нібыта няправільных адносінах да культурна-моўнай спадчыны беларускага народу ў цэлым. Падстаў для падобных сьцьвярджэньняў няма». («Зьвязда», 27.III.87).

На абгрунтаваньне сказанага Сакалоў ужыў тры «контраргумэнты».

Першы — ленінская нацыянальная палітыка гарантуе паасобным грамадзянам права свабодна пастаўналяць самым, якой мовай яны хочуць карыстацца. На Беларусі, сказаў ён, практычна ўсё жыхарства разумее абедзьве мовы, беларускую й расейскую. Сакалоў спаслаўся на перапіс 1979 году, паводля якога блізу 80% жыхароў рэспублікі запісалі расейскую як сваю родную мову або сваю другую мову. «Ніхто нікому ня ўказвае, — сказаў Сакалоў, — на якой мове зьвяртацца да таварышаў, выступаць з трыбуны. Ніхто нікому ня ўказвае, на якой мове пісаць вершы і раманы. Галоўнае — ідэйна-мастацкі ўзровень, грамадзка-палітычная значнасьць твору».

Другое, даводзіў Сакалоў, трэба ўлічваць усё больш інтэсыўны працэс урбанізацыі, інтэрнацыяналізацыі ды рост шмат нацыянальных калектываў у рэспубліцы, у якіх мовай сувязі служыць расейская мова.

І трэйцяе, у рэспубліцы, паводля кіраўніка партыйнай арганізацыі Беларусі, «створаныя ўсе [патрэбныя] для разьвіцьця беларускай мовы, беларускай нацыянальнай культуры ў цэлым».

На падтрыманьне свайго цьверджаньня Сакалоў падаў адпаведную статыстыку публікацыяў беларускамоўных газэтаў і літаратурных твораў ды пералічыў назовы розных энцыкляпэдыяў і даведнікаў, выдадзеных на працягу мінулага дзесяцігодзьдзя. Ён адзначыў, прыкладам, што шэсьць рэспубліканскіх газэтаў з адзінаццацёх, чатыры абласныя газэты з шасьцёх ды 109 гарадзкіх газэтаў із 119 выходзяць у беларускай мове. «Дык якое-ж гэта забыцьцё роднай мовы, роднай культуры?» — паставіў рытарычнае пытаньне Сакалоў.

Пэўна-ж, статыстыка — прылада вельмі гнуткая, якою можна падмацоўваць загадзя пастаўленыя высновы. Прыкладам, можна было-б таксама зьвярнуць увагу на тое, што ў пэрыядзе 1970-1985 гадоў лік расейскамоўных газэтаў у Беларусі ўзрос з 43 да 82, гэта значыцца збольшыўся на 90,7%. Падобна-ж можна сказаць, што хоць у 1985 г. больш газэтаў выходзіла пабеларуску як парасейску (130 і 82 адпаведна), аднаразовы тыраж расейскамоўных газэтаў перавышаў тыраж беларускамоўных больш як удвая (3,05 міліёну экз. і 1,57 міліёну адпаведна), становячы 66,1% агульнага тыражу. Паміж 1950 і 1982 гадамі аднаразовы тыраж беларускамоўных газэтаў абнізіўся з 62,6% да 32,4% агульнага тыражу, ставячы БССР у гэтай катэгорыі на перадапошняе месца сярод 14 нерасейскіх рэспублікаў.

Паказальна, што Сакалоў не захацеў падаць статыстыку вучняў, якія вывучаюць беларускую мову ў расейскіх школах БССР. Калі-б ён гэткую статыстыку падаў, дык мы даведаліся-б, што хоць у 1979 г. толькі прыблізна 22% агульнаадукацыйных школаў у рэспубліцы былі школы з расейскаю моваю навучаньня, у іх вучылася 61% усіх вучняў. Гэта паказвае, што лік вучняў у расейскамоўных школах узрос на 10% супраць 1972-73 навучальнага году, калі 51,1% вучняў у рэспубліцы навучаліся парасейску. А ў гарадзкіх мясцовасьцях Беларусі ў 1979 г. 97,6% вучняў наведвалі школы з расейскаю моваю выкладаньня.

Але яшчэ важнейшым за выбарачнае карыстаньне статыстыкай стаўся факт, што лідэр кампартыі Беларусі зрабіў у сваёй прамове на згадваным

*(Заканчэньне на 2-й б.)*

**Анатоль Вялюгін**

### А Ў БАРЫ, БАРЫ...

*Лубянку схопіш, грыбавік,*
*а шчыры бор пад бокам.*
*На тупкай сьцежцы баравік,*
*як хлеба сьвежы бохан.*

*Стрымай у радасьці руку!*
*Хай цуд пад гольлем счэзьне —*
*карэніца ў баравіку*
*нябачна люты цэзій.*

*Хоць ты патомны лесавік,*
*ідзі, ўздыхнуўшы, міма.*
*Эх, часе, часе...*
*Баравік,*
*і той сядзіць, як міна.*

«Полымя», 1987, № 3

*Заўвага:* Аўтар гэтага вершу Анатоль Вялюгін паходзіць зь Сеньненскага раёну на Віцебшчыне і, трэба думаць, піша ў вершы пра баравікі ў сваёй роднай мясцовасьці.

## *ЛІСТ ДА ГАРБАЧОВА*

### ДАДАТАК

*(Працяг з папярэдняга нумару)*

**Комплекс прапановаў для карэннага палепшаньня стану роднае мовы, культуры й патрыятычнага ўзгадаваньня ў Беларускай ССР**

**1. У галіне ідэйна-ўзгадавальнай работы**

— партыйным і камсамольскім працаўнікам у органах друку і ў вусных выступленьнях, лектарам у сыстэме палітычнай асьветы, прапагандыстам паказваць і падкрасьляць значаньне роднае мовы ўва ўзгадоўваньні савецкага патрыятызму;

— шырака выкарыстоўваць сродкі масавай інфармацыі для азнаямленьня жыхарства рэспублікі з багатымі традыцыямі беларускае культуры, слаўнай і трагічнай гісторыяй народу, паказваць багацьце й хараство роднай мовы;

— праводзіць напорную растлумачальную работу сярод моладзі прапагандай фальклёру як антыподу буржуазнай масавай культуры, памятаючы, што самая дзеістая прапаганда — гэта далучэньне моладзі, як сельскай, гэтак і гарадзкой, да традыцыяў народнай культуры.

**2. У галіне народнай асьветы**

— павінен датрымвацца найважнейшы прынцып — моўная пераемнасьць у сыстэме народнай асьветы і вышэйшай (а таксама сярэдняй спэцыяльнай і прафэсійнай) адукацыі; асьвета ў роднай мове ня можа нармальна разьвівацца, калі няма дашкольнага ўзгадаваньня й вышэйшай школы ў роднай мове;

— перавесьці дашкольныя дзіцячыя ўстановы ў беларускую мову: у селавой мясцовасьці — усе, у гарадох і гарадзкіх пасёлках — у колькасьці, прапарцыянальнай нацыянальнаму складу жыхарства;

— распрацаваць праграмы й мэтадычныя рэкамэндацыі для беларускамоўных дашкольных установаў, а таксама для дашкольных установаў з расейскай мовай навучаньня з улікам спэцыфікі рэспублікі;

— забясьпечыць дзіцячыя дашкольныя ўстановы кніжкамі-малюнкамі, гульнямі, грамафоннымі кружэлкамі з запісамі дзіцячых песьняў, вершаў і казак, дыяфільмамі ды іншымі дапаможнікамі для ўзгадавальнай работы ў беларускай мове;

— перавесьці ўсе школы ў селавой мясцовасьці ў беларускую мову навучаньня, аднавіўшы першым чынам выкладаньне ў роднай мове ў тых школах, што цяпер беларускія адно намінальна;

— адчыніць школы зь беларускай мовай навучаньня па ўсіх гарадох, гарадзкіх пасёлках у колькасьці, прапарцыянальнай нацыянальнаму складу жыхарства;

— увесьці ў школы з расейскай мовай навучаньня вывучэньне беларускае мовы ад першае клясы;

— стварыць новыя падручнікі (для малодшых і старэйшых клясаў) і кнігі для чытаньня зь гісторыі Беларусі, у якіх-бы аб'ектыўна насьвятляліся гістарычныя падзеі,а таксама ўклад беларускага народу ў сусьветную гісторыю й культуру;

— у школах зь беларускай мовай навучаньня ўвесьці выкладаньне замежных моваў у беларускай мове як у мове дапаможнай; дзеля гэтага выпусьціць падручнікі асноўных замежных моваў спэцыяльна для гэтых школаў, а таксама іншамоўна-беларускія й беларуска-іншамоўныя слоўнікі.

— забясьпечыць школы навучальнымі, пазнавальнымі й навукова-папулярнымі дыяфільмамі ды фільмамі, грамафоннымі кружэлкамі з запісамі мастацкіх твораў ды іншымі дапаможнікамі ў беларускай мове;

— увесьці ў школах (магчыма ад шостай клясы) у якасьці факультатыўнага прадмету дыялекталёгію (у сельскіх школах — з ухілам да мясцовых гаворак); зрыхтаваць і выдаць адпаведны навучальны дапаможнік;

— стварыць навукова-мэтадычны часапіс «Беларуская мова й літаратура ў школе»;

— зрэалізаваць перавод тэхнікумаў і вучылішчаў, першым чынам тых, што рыхтуюць кадры для сыстэмы асьветы й культуры (пэдагагічныя, музычныя, мастацкія, культасьветвучылішчы ды інш.), а таксама для сельскае гаспадаркі, у беларускую мову навучаньня;

— перавесьці ВНУ, што займаюцца рыхтаваньнем кадраў для культуры (інстытут культуры, тэатральна-мастацкі інстытут, кансэрваторыю), сельскае гаспадаркі, а таксама гуманітарныя факультэты ўнівэрсытэтаў у беларускую мову навучаньня; на рэшце факультэтаў і ў іншых ВНУ стварыць беларускія аддзелы;

— зрэалізаваць пераход у беларускую мову навучаньня ўсіх пэдагагічных інстытутаў рэспублікі, у тым ліку інстытуту замежных моваў;

*(Заканчэньне на б. 8-й)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# АБАРОНА МОВЫ: УДАЧЫ НЯ ШМАТ

Пасьля патоку пратэстаў на старонках газэты «Літаратура і Мастацтва» супраць дыскрымінацыі беларускай мовы ў навучальнай сыстэме БССР, міністар асьветы рэспублікі Л. Сухнат («ЛіМ, 13.III.87) паведаміў, што «Значная колькасьць крытычных заўваг прызнана правільнай, заслугоўвае ўвагі і патрабуе вырашэньня».

Сухнат прызнаў патрэбу «правядзеньня глыбокай растлумачальнай работы з вучнямі і іх бацькамі аб неабходнасьці вывучэньня беларускай мовы ў школах з расейскай мовай навучаньня». Будуць рабіцца захады «аб адкрыцьці ў г. Менску і іншых гарадох рэспублікі школаў і клясаў зь беларускай мовай навучаньня». Значыцца, цяпер там школаў гэткіх няма.

Часткава палепшаная справа навучаньня беларускай мовы ў школах з расейскай мовай навучаньня: беларускую мову ў гэтых школах дзеці будуць пачынаць вывучаць ня з трэйцяе клясы, як дасюль, а з другое, тымчасам як дамаганьні робяцца, каб беларуская мова выкладалася ад самага пачатку навучаньня, зь дзіцячага садка.

Міністар Сухнат выправіў памылковыя цьверджаньні аб колькасьці школьнікаў, якія «вызваленыя» ад вывучаньня беларускае мовы. «У 1986-1987 навучальным годзе, — кажа міністар, — беларускую мову ня вывучае толькі 3% вучняў школаў з расейскай мовай навучаньня. Беларускую літаратуру вывучаюць усе вучні».

У тым-жа нумары «ЛіМу» зьмешчаны й адказ намесьніка міністра вышэйшай і сярэдняй спэцыяльнай адукацыі БССР В. Стаўрова. З таго, што піша гэты чыноўнік, ня выглядае, каб палажэньне істотна мянялася на лепшае. Адказ Стаўрова — тыповая бюракратычная адпіска, спроба правесьці параўнаньне з тым, што рабілася ў сярэдзіне 50-х і сярэдзіне 60-х гадоў. Падумаеш, міністэрства Стаўрова ад сярэдзіны 1960-х гадоў «дамаглося дазволу на правядзеньне ўступных экзаменаў у вышэйшыя і сярэднія спэцыяльныя навучальныя ўстановы ня толькі па рускай мове і літаратуры, але і па беларускай мове і літаратуры (на жаданьні абітурыентаў)»! Ёсьць чым хваліцца!

Галоўнае аднак дамаганьне беларускага грамадзтва застаецца незадавольненым. Стаўроў свой адказ у «ЛіМе» канчае гэткай заявай:

«Што датычыць прапановы аб пераводзе выкладаньня ў вышэйшых і сярэдніх спэцыяльных навучальных установах на беларускую мову, то гэтае пытаньне ўва ўмовах свабоды выбару мовы, якая вывучаецца, патрабуе, на наш погляд, перш за ўсё больш глыбокага вывучэньня і абмеркаваньня ня толькі сярод работнікаў усіх ступеняў народнай асьветы, але і самых шырокіх слаёў насельніцтва рэспублікі».

Ці не прапануе Стаўроў правесьці плебісцыт у рэспубліцы што да патрэбы ратаваньня беларускае мовы.

# АДКАЗ АБАРОНЦАМ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

пленуме *палітычную* заяву, даючы зразумець, што з гледзішча партыі гутаркі пра патрэбу палепшаньня ролі й статусу беларускае мовы павінны быць скончаныя ды што перш-наперш тыя, хто ўздымае гэтыя праблемы, «памыляюцца». Сакалоў гэтак і заявіў: «Хто памыляецца ў гэтых пытаньнях, яму трэба дапамагчы разабрацца. Хто хацеў-бы драматызаваць іх, павінен ведаць, што гэта не на карысьць перабудове, справе выхаваньня. Нацыянальнае пытаньне мы разглядалі, разглядаем і будзем разглядаць зь інтэрнацыяналісцкіх пазыцый».

Пазыцыя партыі, гэткім парадкам, выкладзеная катэгарычнымі словамі і цікава будзе паглядзець, як энтузіясты роднае мовы зарэагуюць на гэта, асабліва з гледзішча на прыхаваную пагрозу, што ім патрэбнае пэўнае «пераўзгадаваньне».

Трэба меркаваць, што Сакалоў, які быў пастаўлены на становішча першага сакратара КПБ на пачатку лютага сёлета, не фармуляваў свае пазыцыі ў пытаньні мовы самастойна, а кансультаваўся з Масквою. Калі гэтак, дык 28 дзеячоў беларускае культуры, якія зьвярнуліся да савецкага лідэра Гарбачова ў сьнежні летась, выказваючы яму сваю ўстурбаванасьць станам і будучыняй беларускае мовы й нацыі ды падаючы канкрэтныя прапановы, як выправіць наяўны стан, атрымалі цяпер адказ Масквы.

З другога боку, ня выключана, што Сакалоў дзеіў менш-больш на сваю руку. Некаторыя заходнія назіральнікі выказвалі меркаваньні, што думка Крамля ў большыні важных бягучых пытаньняў далёкая ад аднадушнае ды што партыйная верхавіна знаходзіцца ў стадыі зьменаў. Пры гэткіх акалічнасьцях рэспубліканскае кіраўніцтва партыі можа мець больш аўтаноміі проста ў выніку нястачы вызначанага згары кірунку.

І запраўды, цяпер, як выглядае, ужо нельга спасылацца на артыкул у газэце «Правда» ды рабіць выснову, што гэта — «лінія Масквы». Гэтак, прыкладам, 11 лютага сёлета гэты галоўны орган Крамля ў артыкуле свайго карэспандэнта з Алма-Аты падыйшоў блізка да абвінавачаньня аднае казахскае газэты ў нацыяналізме за тое, што газэта гэная прыхільна адгукнулася пра адчыненьне новага дзіцячага садка з казахскай мовай навучаньня, а з другога боку тая-ж «Правда» зьмясьціла (7 травеня) артыкул армянскае паэткі, у якім крытыкуецца празьмерны кантроль Масквы ў гэткіх пытаньнях, як выкладаньне ў рэспубліках роднае мовы й нацыянальнае гісторыі.

**Раман Салчанік**

# РОСТ БАПТЫЗМУ Ў БЕЛАРУСІ

## «ПАГРОЗА РАСЕЙСКАЙ ІМПЭРЫІ

«У Беларусі баптысцкая абшчына за апошнія гады вырасла ўдвая» — гэтак сказаў адзін з чатырох удзельнікаў праведзенага ў Маске ў другой палавіне 1986 г. «круглага стала». Прозьвішчы ўдзельнікаў не названыя, а іхныя адказы на сем пытаньняў аб Расейскай Праваслаўнай Царкве зьмешчаныя на 43-х машынапісных старонках публікацыі «Материалы Самиздата», якая выдаецца радыястанцыяй «Свабода» (выпуск № 9/87, 30.III.1987).

Рост баптызму ў СССР аўтар вышэй паданага выказваньня тлумачыць «часткава сацыяльным складам баптызму. Сярод баптыстаў блізу няма інтэлегенцыі, якая рэфлектуе, сумляецца ў сваіх магчымасьцях».

Другі ўдзельнік «круглага стала» таксама адзначыў рост баптызму. «Вельмі вялікі ўздым, — сказаў ён, — назіраецца ў баптыстаў, адвэнтыстаў і пяцьдзясятнікаў як у прыбалтыйскім краі, гэтак і ўва ўсіх вобласьцях з расейскім, славянскім, нават з грузінскім ці абхаскім жыхарствам».

На думку таго-ж чалавека, рост пратэстантызму — гэта «магутная бомба запавольненага дзеяньня для ўладаў, бо англа-амэрыканскае сэктанцтва ўносіць у расейскую стыхію новы, у шмат чым малазнаёмы ёй дух, які неяк наінша фармуе нацыянальны тып. Прычым дух гэты — далёка ня дух пасыўнасьці й несупрацiву беззаконьню». (18)

Цікавае выказваньне трэйцяга ўдзельніка «круглага стала⁄ пра пагрозу, якую нясе баптызм расейскай імпэрыі. Вось ягоныя словы:

«Прабудженьне, якое назіраецца ў праваслаўнай царкве, ахапіла, бясспрэчна, хоць і ў розныя часы, і іншыя канфэсіі, асабліва баптызм, які цяпер нагэтулькі пашырыўся ў простым народзе, што ўжо з трывогай даводзіцца гаварыць пра ягоную пагрозу ня толькі расейскаму праваслаўю, але й духовай цэласнасьці расейскага народу. Робячыся баптыстам, Расеец няўхільна траціць сваю гістарычную й духовую своеасаблівасьць ды выглядае як благая копія «немца»-штундыста. Уносячы падзел у духовае жыцьцё народу, баптызм раней ці пазьней прывядзе да ягонага вонкавага расколу да распаду імпэрыі, якую з гэткімі цяжкасьцмі будавалі нашы продкі».

# У ГОМЕЛІ НЯ ВАРАЦЬ ЯЙКАЎ

У прыватных лістох з Гомелю пішуць, што людзі там ня вараць яёк, каб стронцый (радыяактыўны ізатоп) у часе варэньня не пранік са шкарлупы ў бялок яйка. Што гэта — стронцый і якая ягоная пагроза, красамоўна апісаў Анатоль Вярцінскі ў сваім вершы пад заг. «Стронцый». Верш напісаны задоўга да чарнобыльскае катастрофы, недзе ў 1960-х гадох, але як-жа актуальна гучыць ён сёньня! Верш зьмешчаны ў зборніку выбраных вершаў і паэмаў Вярцінскага «Сьвятло зямное» (Менск, 1981). Ніжэй падаём пачатак вершу.

### *СТРОНЦЫЙ*

*Слова гэта сугучнае*
*са словам «сонца».*
*Ды іх рыфмаваць ці будзеш цяпер наўрад.*
*Разумееце, гэта слова «стронцый»?*
*(Паспрабуй пастаў яго*
*з сонцам у рад.)*
*Так, так, гэта той самы стронцый,*
*прад якім цьмянеюць*
*і порах, і сьвінец,*
*аб якім на кожнай газэтнай староньцы*
*папярэджваюць:*
*«Стронцый —*
*гэта*
*канец».*
*Скажам, выбухне бомба*
*на планэце*
*дзесьці.*
*І зь месца таго,*
*адразу ва ўсе бакі,*
*пачнецца стронцыя*
*сьмертаноснае шэсьце,*
*якое ня спыняць ні людзі,*
*ні іх багі.*
*Дзеці слабей за нас,*
*ім хопіць меншай*
*дозы.*
*Ручкі працягваць*
*будуць да нас дарма, —*
*ня ведаючы,*
*што тут не памогуць сьлёзы,*
*ня верачы,*
*што тут паратунку няма.*
*Будзе няўцям малым,*
*што мы ім не*
*абаронцы,*
*хаця засланялі да гэтага*
*ад самых розных*
*бед;*
*што нас самых*
*вось-вось даканае*
*стронцый*
*і ўсьлед за дзецьмі*
*адправіць*
*на той сьвет.*

*Калі-ж нас там*
*пацягнуць у пекла якія*
*дурні,*
*спрачацца ня будзем,*
*з усьмешкаю*
*скажам:*
*«Пайшлі».*
*І здасца нам пекла*
*мірнаю смалакурняй*
*перад тым, што мы чулі і бачылі*
*на зямлі...*

# ЯШЧЭ АДЗІН ВЯЗЕНЬ СУМЛЕНЬНЯ

Віктар Сазонавіч Храмянкоў, ураджэнец (10.VI.1939) вёскі Ярыгі Магілеўскай вобласьці, Беларус, беспартыйны, з вышэйшай асьветай (інжынер), жанаты, быў засуджаны ў чэрвені 1986 г. за дамаганьне свабоды акадэміку Андрэю Сахараву. Суд над Храмянковам адбыўся 10 чэрвеня 1986 году ў Ленінградзе, дзе падсудны працаваў старшым інжынерам у Паўночна-Заходнім завочным палітэхнічным інстытуце.

Храмянкоў уначы 5 сакавіка 1986 г. зрабіў аліўнай хварбай, вялікімі літарамі, надпіс на вонкавай сьцяне Трубецкага бастыёну Петрапаўлаўскай крэпасьці — «Свабоду Сахараву!» Надпіс тае-ж ночы міліцыя замалявала.

Храмянкову было выстаўленае абвінавачаньне ў «дзёрзкім хуліганстве» ды «пашкоджаньні ў працэсе хуліганства помніка гісторыі й культуры, узятага пад ахову дзяржаваю». Прысуд: чатыры з палавінаю гады «пазбаўленьня свабоды ў папраўча-працоўнай калёніі узмоцненага рэжыму».

Храмянкоў знаходзіцца ў лягеры, адрас якога: **учр. УС-20/9-104, с. Горелово, Ленинградская обл.**

(Паводля бюлетэню «Материалы Самиздата» радыястанцыі «Свабода», выпуск № 11/87, 24.IV.1987, дакумэнты №№ 5921 і 5922).

# ПРЫСУДЖАНЫЯ ДА РАССТРЭЛУ

У Віцебску ў травені сёлета адбыўся судовы працэс над двума былымі жаўнерамі 13-га батальлёну, В. Д. Баршчэўскім і Ф. Я. Катовічам, арыштаванымі ў сьнежні летась і абвінавачанымі ўва ўдзеле ў «карных апэрацыях». Абодвы засуджаныя на сьмерць.

 





## «КРЫНІЦА ЖЫВОЙ ВАДЫ»

**Беларусь для М. Багдановіча й Багдановіч для Беларусі**

Сёлета ў травені (25.V) споўнілася 70 гадоў як памёр у Ялце незабыўны Максім Багдановіч, уплыў якога на сучасны беларускі літаратурны працэс стаецца ўсё больш выразным і дабратворным.

У артыкуле Валерыя Ліпневіча пра пераклад Браніславам Спрынчанам Багдановічавага зборніка вершаў «Вянок» у расейскую мову («Літаратура і Мастацтва», 22.V.87) выказаная думка, што «праху яго (М. Багдановіча) пара на Радзіму, бліжэй да свайго народу».

Пра рост сярод Беларусаў пашаны да М. Багдановіча (якога савецкія вульгарызатары 1930-мі гадамі залічалі ў дэкадэнты) сьветчыць карэспандэнцыя пісьменьніка Артура Вольскага ў газэце «ЛіМ» (22.V.87) пра нядаўную прэм'еру ў Доме літаратара ў Менску.

«Нарэшце — доўгачаканая падзея. На сцэне Дому літаратара — прэм'ера.

«'У родным краю ёсьць краніца жывой вады' — такую гэты спэктакль атрымаў назву, удакладненую падзагалоўкам: 'Максім Багдановіч і час'. Удакладненьне вельмі істотнае.

«Зь першых-жа рэплік, што прагучэлі са сцэны, перапоўненая заля, у якой пераважала моладзь, застыла ў напружаным маўчаньні. Спэктакль адразу захапіў усіх сваёй шчырасьцю, адкрытасьцю, сьмеласьцю, нават рызыкоўнасьцю. Надзвычай па-сучаснаму загучэлі ў ім вершы і выказваньні Максіма Багдановіча, цытаты з твораў Васіля Быкава, Уладзімера Караткевіча... Кожны разумеў, што крыніца жывой вады — гэта родная мова, гэта культура шматпакутнага і гераічнага народу, якую ўсім нам трэба любіць, шанаваць, аберагаць».

## КУПАЛАЎСКАЯ ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ

Беларускія савецкія газэты падалі пра выхад з друку, у выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя», слоўніка «Янка Купала». У кнізе — 3095 артыкулаў пра Купалу: ягонае жыцьцё, творчасьць, ягоных родных і блізкіх, увасабленьне купалаўскае тэмы ў мастацтве. Кніга багата ілюстраваная.

Гэта трэйці ў Савецкім Саюзе гэткі слоўнік. Раней былі выдадзеныя падобныя даведнікі пра расейскага паэта Ю. Лермантава і ўкраінскага Т. Шаўчэнку.

Газэта «Советская Белоруссия» (10.III.87) адзначыла, што ў слоўніку «на новым, больш высокім узроўні асэнсаваная разнабаковая творчасьць Купалы, дадзены вялікі матар'ял для далейшага вывучэньня ягонае літаратурнае спадчыны».

Азнаямленьне з кнігай неўзабаве пакажа, наколькі гэты «новы, больш высокі ўзровень» дае дадатковую інфармацыю пра Купалава жыцьцё й творчасьць, колькі зь ягоных, раней забароненых, твораў названыя ў слоўніку, ці гаворыцца ў даведніку пра тое, пра што сёлета ўжо было сказна ў беларускім савецкім друку: што Янка Купала рабіў замах на сваё жыцьцё ў 1930 г. ды што ў 1938 г. яму й Якубу Коласу пагражаў арышт, быў ужо прысланы загад на арышт, але Панамарэнка паехаў да Сталіна й дамогся скасаваньня загаду.

### *ВОДГУК НА КНІГУ ПРА Я. КУПАЛУ*

Расейскі эміграцыйны часапіс «Континент» (кн. 49, 1986), прыхільна рэцэнзуючы кнігу Вітаўта й Зоры Кіпеляў «Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе» (анатаваны бібліяграфічны даведнік) піша:

«Адно толькі чытаньне назоваў артыкулаў і нататак у эмігранцкім друку паказвае, што поўнае прысвойваньне 'савецкай літаратурай' беларускіх клясыкаў, асабліва Янкі Купалы, яўна праводзіцца нясумленнымі мэтадамі. У біяграфіі Янкі Купалы застаецца шэраг мамэнтаў, якія ня фігуруюць пры ўстанаўляньні ягонае васковае статуі ў камуністычным Пантэоне: ягоны арышт на пачатку 30-х гадоў, калі адбываўся пагром беларускай інтэлігенцыі; неўзабаве па звальненьні спроба самагубства; сама таямнічая сьмерць у 1942 годзе (ён, быццам-бы, вываліўся з вакна гатэлю ў Маскве — супадзеньне гэтага нешчасьлівага выпадку зь ведамым мэтадам камуністычнае расправы, прынамся, бянтэжыць); ягоная п'еса 20-х гадоў 'Тутэйшыя' практычна застаецца пад забаронай.

«Тым ня менш, — піша «Континент», — з горыччу даводзіцца сказаць, што абодвы клясыкі беларускае літаратуры былі зламаныя й зьняважаныя. Зламаныя рэпрэсіямі й страхам рэпрэсіяў, абяцанкамі і ўшаноўваньнем. Зразумела, на старонках эміграцыйнага друку іхны вобраз цірэдчас паўстае ў хрэстаматыйным выглядзе, аднак няма нястачы і ў больш паважных разглядах іхнае складанае долі й творчасьці».

### «АДКРЫТЫ ЛІСТ» Я. КУПАЛЫ

Савецкая цэнзура трымае пад сямю замкамі Купалаў пакаяльны г. зв. «Адкрыты ліст», які стэрарызаваны паэт мусіў падпісаць напрыканцы 1930 году. «Ліст» гэты, якім народны паэт зьнеслаўляў сваю папярэднюю творчасьць і дзейнасьць, сёньня ў запраўднасьці ганьбуе тую сыстэму, што змусіла Янку Купалу выракацца сябе самога.

Купалаў «адкрыты ліст» зьявіўся ў «Зьвяздзе» (№ 291 за 14.XII.1930 г.), у часапісе «Комуністычнае выхаваньне» (№ 12 за 1930 г.) ды у часапісе «Маладняк» (№ 6-7 за 1931 г.).

Тэкст Купалава «адкрытага ліста» ўпяршыню перадрукаваны поўнасьцю ў кнізе **Станіслава Станкевіча «ЯНКА КУПАЛА. На 100-я ўгодкі ад нараджэньня»** (Нью-Ёрк, 1982). Кнігу можна набыць з выдавецтва газэты «Беларус». Цана: 10 дал.

### *Я. КУПАЛА Ў ЧАТЫРОХ МОВАХ*

Славенскае выдавецтва «Санкарыева заложба» (Любляна, 1986) выдала кнігу вершаў Янкі Купалы (пад. заг. «Вершы») у чатырох мовах: беларускай, славенскай, расейскай і ангельскай.

### ЗЬЕЗД ЗБВБ

41-шы зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца 18-га ліпеня сёлета ў Лёндане ў памешканьні Беларускае Бібліятэкі імя Скарыны (пачатак а 2-й гадз. пп.).

## ТАЯМНІЦА СЬМЕРЦІ

**(Да 45-х угодкаў скону Янкі Купалы)**

***Прыйдзе новы — а мудры — гісторык,***
***А ён прыйдзе — ужо ён ідзе...***
***Янка Купала, 1930 г.***

28-га чэрвеня 1942 году ў Маскве ў загадкавых абставінах скончылася жыцьцё Янкі Купалы, за дзевяць дзён да 60-годзьдзя. Якая перадчасная сьмерць! І дагэтуль пакрытая таямніцаю. Помста сталінскіх апрычнікаў? Калі так, дык за што? Самагубства, як пратэст? Магчыма. У Купалавай біяграфіі была ўжо адна гэткая драма — пратэст праз самагубства. Але ня выйшла — адратавалі.



*Праект кургана-помніка Янку Купалу народнага мастака БССР Аляксея Глебава. Помнік меўся быць закладзены ў 1962 г., але да гэтага не дайшло ў выніку палітыкі заціску беларускае культуры. Фота паводля газ. «Чырвоная зьмена», 14.IV.1962.*

Сёньня ў выніку гарбачоўскае публічнасьці («галоснасьці») пачынаюць трапляць у афіцыйны савецкі друк сякія-такія дэталі тае першае спробы, няўдалае, якая, магчыма, дае аснову для гіпатэзы і аб, калі не самагубнай сьмерці, дык самагубным імпульсе ў далейшым жыцьці Янкі Купалы, што мог выявіцца йзноў у 1942 годзе.

Маскоўскія газэты ў сваіх кароткіх паведамленьнях пра сьмерць Купалы назвалі яе «неспадзяванай», «трагічнай». У чым была «трагічнасьць», афіцыйнага тлумачэньня й дагэтуль няма.

Цікавае сьветчаньне пра спробу самагубства ў 1930 г. апублікаваў сёлета менскі расейскамоўны літаратурны месячнік «Неман». У сакавіковым нумары часапісу былі зьмешчаныя дзёньнікавыя запісы рэпрэсіяванага ў 1936 г. беларускага пісьменьніка Барыса Мікуліча. Быўшы па вайне ўжо на ссылцы ў Казахстане, Мікуліч, пад датаю 25 жнівеня 1946 г., запісаў гэткі ўспамін з 1930 г.:

**«Нацыяналізмам даймаюць Янку Купалу, і тут шмат папрацавалі Бэндэ й К. — дзьвюх думак ня можа быць. Скончылася гэта безразважлівым ударам нажа ў левую грудзіну — я памятаю гэты дзень, усхваляваныя гутаркі ў Доме Пісьменьніка й дурныя намёкі, што гэта — 'справа ворагаў'».**

«Дурныя намёкі» гэных часоў сталіся дурным маўчаньнем. Ці дурніна гэтая будзе зьнесеная хваляй публічнасьці, цяжка сказаць. Факт пропуску ў друк Мікулічавага запісу як-бы ўзбуджае надзею, што дойдзе да галоснасьці й вакол замоўчаных дасюль абставінаў Купалавага жыцьця ды ягоных усё йшчэ забароненых твораў.

З гледзішча на ўстанаўленьне праўды пра Купалу ў 1930 г. варта прыгадаць тут успамін Уладзімера Мяжэвіча пад заг. «Кветкі для Купалы», зьмешчаны ў газэце «Літаратура і Мастацтва» 5.XII.1980 году.

У 1930 г. Мяжэвіч быў маладым журналістам, працаваў у рэдакцыі «Зьвязды». Аднойчы рэдактар «Зьвязды» Будзінскі паклікаў Мяжэвіча й даручыў яму занесьці кветкі Янку Купалу ў шпіталь ды папрасіць Купалу, напісаць верш. Даючы даручэньне маладому Мяжэвічу, Будзінскі выцягнуў з прыстоліка пачку газэтаў. «Гэта былі газэты ня нашыя, чужыя, — піса ў 1980 г. Мяжэвіч. — На польскай і беларускай мовах. Сярод іншых мне кінулася ў вочы газэта 'Звон'. На першай старонцы ў жалобнай рамцы быў знаёмы партрэт. Купала! Пад партрэтам тоўстым шрыфтам было надрукавана: **'Бальшавікі закатавалі народнага песьняра Беларусі Янку Купалу'».**

Рэдактар «Зьвязды» Будзінскі, пасылаючы Мяжэвіча да Купалы з кветкамі, хацеў, каб той напісаў верш, каб вершам у «Зьвяздзе» «прышчапіць хвост паклёпнікам». Але Купала сказаў Мяжэвічу: «У бальніцы вершы дрэнна пішуцца». Між іншага, Мяжэвіч гэтак і не напісаў у сваім успаміне, зь якой-жа гэта «хваробай» ляжаў Купала ў шпіталі ў 1930 годзе.

Купалу гэнымі часамі вершы запраўды пісаліся «дрэнна». І калі нарэшце ў канцы таго-ж трагічнага 1930 году паэт напісаў свой верш пад заг. «Песьня будаўніцтву» (сацыялістычнаму — гэтаму, што цяпер «перабудоўваецца» пры дапамозе «галоснасьці»), дык пачаў верш гэткімі словамі:

Прыдзе новы — а мудры — гісторык,
А ён прыдзе — ужо ён ідзе —
І сказ дзіўны праўдзівы ад зорак
І да зорак аб нашых прасторах,
А падзеях, людзях павядзе...

Далей у вершы стэрарызаваны Купала даў сацрэалістычныя радкі хвалы, усхваленьня сталінскага «будаўніцтва», якое каштавала цімалое крыві і самому паэту і ягонаму народу. Пра гэтую цану Купала ведаў. Але паэт прадэманстраваў сваё жаданьне, каб пра гэнае «будаўніцтва» даведаліся й будучыя пакаленьні, ад якіх даўгі час хавалася праўда пра трагічныя абставіны ўзводжаньня тае савецкае сацыялістычнае «будыніны».

Гісторык, як выглядае, прыходзіць нарэшце. Пачынае свой «мудры сказ». Будзем спадзявацца, што гэты гісторык застанецца, каб расказаць нам усю праўду...

**Янка Запруднік**

 

# ДА 400-ГОДЗЬДЗЯ СТАТУТУ ВКЛ

**Ад Рэдакцыі:**

*На 1988 год прыпадае вялікі юбілей — 400-годзьдзе Статуту Вялікага Княства Літоўскага, выдатнага помніка юрыдычнае думкі Беларусі. З гэтага гледзішча заслугоўвае на ўвагу артыкул Г. В. Дзербінай у першым сёлетнім нумары двумесячніка АН БССР «ВЕСЬЦІ». Сэрыя грамадзкіх навук». У артыкуле гаворыцца аб перадавым характары праўнага ладу на Беларусі ў эпоху, калі ў шмат якіх дзяржавах Захаду і Ўсходу пераважалі рэпрэсіі й нецалерантнасьць (інквізыцыя, апрычніна прынцып «Чыя ўлада таго й вера» ды іншае). Падаём ніжэй урыўкі з артыкулу Дзербінай.*

«Гісторыя культуры народаў Вялікага Княства літоўскага (Беларусі, Літвы, Украіны і інш.) разьвівалася па агульнаэўрапейскаму тыпу. Канец XV-XVIII ст. ў Беларусі зьяўляўся эпохай Адраджэньня, рэнэсанснага гуманізму, Рэфармацыі — такі вывад зрабілі беларускія дасьледчыкі. ‘У сьвятле новых навуковых даных Вялікае Княства Літоўскае XVI ст. цалкам упісваецца ў эпоху эўрапейскага Рэнэсансу як па сацыяльна-палітычнай структуры, так і па савіх філязофскіх, палітычна-праўных і літаратурна-мастацкіх ідэях, хоць і складае своеасаблівы ў адносінах сьвецкай культуры рэгіён’. (Конон В. М. Правовые взгляды Скорины/Развитие правовых институтов в Литве XIV-XIX вв. Вильнюс, 1981, с. 66). (...) (25).

«Для філязофска-праўнай думкі гэтага пэрыяду характэрныя прызнаньне пераўтваральнай сілы законнасьці, уплыў рэфармацыйных, рэнэсансных і гуманістычных традыцыяў на сьвецкую інтэрпрэтацыю палітыка-праўных інстытутаў. Палітычная і літаратурная дзейнасьць беларускіх гуманістаў адлюстравала праваразуменьне гэтай эпохі.

«Ф. Скарына праводзіць думку аб разрыве сувязі паміж маральлю і афіцыяльнай рэлігіяй, рацыянальна-натуральным паходжаньні маральных паняцьцяў, прыхозіць да удмкі аб індывідуальнай маральнай алказнасьці чалавека за свае ўчкнкі, разважае аб суадносінах права і закону. Прызнаньне справядлівага, разумнага і маральнага закону асновай дзяржавы зьяўляецца цэнтральнай ідэяй, характэрнай для напрамку грамадзянскага гуманізму.

«Аўтарытэт права, перавага ў грамадзка-палітычнай думцы ідэі законнасьці прывяді да вялікай папулярнасьці праўных ведаў сярод грамадзкасьці. Асаблівая ўвага пачала надавацца прафэсіянальнай падрыхтоўцы юрыстаў — мясцовых ураджэнцаў. Гэты працэс ажыцьцяўляўся праз падрыхтоўку правазнаўцаў у заходнеэўрапейскіх унівэрсытэтах, пазьней — у вышэйшых навучальных установах Рэчы Паспалітай.

«Права на выезд зя мяжу для артымання адукацыі замацавана ў законе — у статутах Вядікага Княства літоўскага. На тэрыторыі дзяржавы можна было атрымаць праўныя веды ў Вільні ў Сьвятаянскай школе грамадзянскага права і Віленскай адкадэміі, кальвінісцкіх і арыянскіх школах, прыватных ‘палестрах’. (...) (26).

«На працягу XV-XVI ст.ст. у дзяржаве ідзе інтэнсыўны працэс праватворчасьці, спачатку ў форме агульназемскіх прывілеяў, потым у форме статутаў. Найбольш важнымі з агульназемскіх прывілеяў, якія несьлі новыя элементы рэнэсанснай эпохі, зьявіліся Гарадзенскія прывілеі 1432 і 1434 г.г. (якія адмянялі найбольш рэакцыйныя нормы Гарадзельскага прывілею 1413 г.), дзе замацаваны асноўныя правы клясы фэўдалаў і шляхты, выкладзеныя прынцыпы крымінальнага і грамадзянскага права, пашырана кола асобаў асабіста недатыкальных (уключаныя гараджане), абвешчаны важнейшы прынцып крымінальнага права — прымяненьне пакараньня толькі да вінаватай асобы і ў адпаведнасьці з правам, замацаваныя тэрытарыяльная цэласнасьць дзяржавы і яе сувэрэнныя правы; прывілей Аляксандра 1492 г. юрыдычна замацаваў абмежаваньне ўлады вялікага князя радай, падзел асабістых сродкаў вялікага князя і дзяржаўных, недапушчальнасьць перадачы сьвецкіх справаў у царкоўныя суды, патрабаваньні вынясеньня судом толькі справядлівых рашэньняў, недапушчальнасьць хабару і судовай прадузятасьці; Горадзенскі прывілей 1506 г. замацаваў прынцып выбраньня вялікага князя — па жаданьню і са згоды духоўных і сьвецкіх фэўдалаў і іншых падданых. Нормы гэтых прывілеяў, якія зьмяшчалі новыя, больш дэмакратычныя прынцыпы, маючы вузкую сфэру прымяненьня, ня ўплывалі на клясавую аснову права, але адлюстроўвалі працэс праваразуменьня і праватворчасьці ў дзяржаве.

«Далейшае разьвіцьцё праватворчасьці адбывалася ў форме статутаў. Завершаную форму сыстэматызацыі заканадаўства ўяўляў Статут ВКЛ 1588 г. (трэці Статут).» (27).






*Частка загаловачнае балоны Статуту, экзэмпляр якога знаходзіцца ў Ньюёркскай Публічнай Бібліятэцы.*

# БЕЛАРУСЫ — ГІСТАРЫЧНЫЯ «ЛІЦЬВІНЫ»

У 1985 г. ў Менску выйшла калектыўная праца «Этнаграфія Беларусаў» (кнігу гэтую, дарэчы, савецкая пошта ня прыймае для высылкі замяжу). У сёлетнім сакавіковым нумары часапісу «Неман» зьмешчаная рэцэньзія на гэтую публікацыю. Рэцэнзэнт-гісторык Мікола Ермаловіч, адзначыўшы, што ўмінулым Беларусаў часта называлі Ліцьвінамі, тлумачыць, «адкуль пайшоў назоў (ліцьвіны’». А пайшоў ён з сучасных беларускіх земляў.

«Беларускае Панямоньне, — піша Ермаловіч, — (*г. зн. тэрыторыя паміж Вяльлёй і Нёманам — рэд. «Б-са»*) звалася Літвой яшчэ ў XI-XII ст.ст. і, гэткім парадкам, для яго гэты назоў (*«Літва» — рэд. «Б-са»*) быў першасным, а ня другасным. (*Ермаловіч вядзе тут спрэчку з аўтарамі «Этнаграфіі Беларусаў», якія пішуць, што назоў «Літва» зьявіўся ў беларускім Панямоньні толькі ў XIII ст. — рэд. «Б-са»*). Жыхары гэтай Літвы, асыміляваныя Крывічамі й Дрыгвічамі, паранейшаму зваліся Ліцьвінамі, якія і ўтварылі новы лякальны этнас ды якія разам з Палачанамі й Паляшукамі склалі беларускую народнасьць. Адсюль пайшоў і назоў дзяржавы як Літоўскае, паколькі беларускае Панямоньне было ядром ейнага паўстаньня ў сярэдзіне XIII ст., а першай сталіцай яе стаўся Наваградак, які знаходзіўся тут. Гэтая акалічнасьць зрабіла палажэньне ліцьвіноў даміную чым у працэсе фармаваньня беларускай народнасьці, і дзеля гэтага Беларусы ў тым часе й зваліся пераважна Ліцьвінамі.

«Толькі пазьней, на пачатку XIV ст., калі сталіца дзяржавы перайшла ў Вільню, найбуйнейшы славянскі цэнтар у гэтым рэгіёне, назоў ‘Літва’ стаў пераходзіць на ўсходнюю частку сучаснае Літвы, якая да таго часу звалася Аўкштотай. Але й беларускае Панямоньне паранейшаму звалася Літвой, а ягоныя жыхары Ліцьвінамі. Не выпадкова-ж Ю. Крыжаніч (XVII ст.) і В. Тацішчаў (XVIII ст.) адзначалі, што Ліцьвіны гутараць паславянску, а П. Бярында ў сваім ‘Лексыконе’ (1627 г.) беларускую мову зваў літоўскай. Вось чаму нельга Старажытную Літву атаесамляць з сучаснай і даўных Ліцьвіноў з сучаснымі Літоўцамі. (...).

«Якраз дзеля таго, што Вялікае Княства Літоўскае было перш-наперш славянскай дзяржавай, славянская культура ў ім сталася пануючай і беларуская мова — дзяржаўнай, а ня дзякуючы таму, як цьвердзіцца ў кнізе, ляяльнаму стаўленьню кіраўнічых вярхоў дзяржавы да Беларусаў, іхнай культуры й мовы».

### АБ БЕЛАРУСКІМ «ТРЫШЧАНЕ»

Сп-ня Зора Кіпель, супрацоўніца Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі, прачытала на міжнародным кангрэсе дасьледнікаў сярэднявечча даклад на тэму «Этнічныя элемэнты ў беларускай вэрсіі раману ‘Трыстан і Ізольда’». Параўноўваючы беларускую вэрсію раману («Аповесьць пра Трышчана») з заходняэўрапейскімі, дакладчыца адзначыла шмат характэрных асаблівасьцяў твору ды ягоную пазнавальную вартасьць для вывучэньня культуры, мовы й быту Беларусі XVI стагодзьдзя. Дакладчыца падкрэсьліла таксама факт, што беларуская вэрсія раману аб Трыстане ў прозе — адзіная сярод славянскіх народаў. Сп-ня Зора Кіпель зрабіла пераклад беларускае вэрсіі трыстану ў ангельскую мову, пераклад здадзены ў друк.

22-гі кангрэс спэцыялістаў сярэднявечча адбыўся 6-10 травеня сёлета ў гор. Каламазу ў штаце Мічыган, у ім узялі ўдзел прадстаўнікі навуковага сьвету з 26-х краінў.

### АН БССР «КАМПЛЕКТУЕЦЦА СЕРАДНЯЧКОМ»

На сёлетнім гадавым агульным сходзе Акадэміі Навукаў БССР разглядалася справа «перабудовы», вялася, паводля газ. «Зьвязда» (19.IV.87), «патрабавальная размова». Стан з навукай у рэспубліцы няцікавы.

«Ёсьць інстытуты, — было сьцьверджана на сходзе акадэмікаў, — узровень дасьледаваньняў у якіх ідзе на спад. Адна з прычынаў у тым, што буйныя вучоныя старэйшага пакаленьня ўжо ня могуць працаваць гэтак-жа актыўна, як і раней, а на зьмену ня прыйшлі маладыя дасьледчыкі, здольныя генэраваць новыя навуковыя ідэі... У 1986 г. папаўненьне навуковых установаў АН БССР за лік маладых спэцыялістаў склала ўсяго толькі 1,8%. З трывогай гаварылі ўдзельнікі сэсіі, — зазначае «Зьвязда», — што цяпер у пераважнай большасьці інстытуты Акадэміі камплектуюцца сераднячком, ад якога чакаць многа ня прыходзіцца».

# ДВАРАНСТВА І БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Як падлічыў П. У. Церашковіч, аўтар артыкулу «Асноўныя тэндэнцыі разьвіцьця беларускага этнасу ў эпоху капіталізму» (*Весьці АН БССР, сэрыя грамадзкіх навук, 1986, № 5, б. 94*), «Згодна зь перапісам 1897 г., са 153 тысячаў прадстаўнікоў саслоўя дваран 43,3% прызналі роднай мовай беларускую, 19,1% — расейскую, 33,8 — польскую».

Артыкул Церашковіча — адзін з рэдкіх у савецкай беларусаведзе аналізаў працэсу станаўленьня беларускае нацыянальнае сьведамасьці. Працэс гэты праходзіў асабліва дынамічна ў канцы XIX-га пачатку XX-га стагодзьдзяў. Церашковіч падае шмат статыстыкі й падлікаў, паробленых ім на аснове вынікаў першага сыстэматычнага перапісу жыхарства Расейскае Імпэрыі. Гэтак, піша аўтар, «К канцу XIX ст. Беларусамі сябе ўсьведамлялі каля 40% чыноўнікаў, 10% юрыстаў, 20% дактароў, 29% паштова-тэлэграфных служачых і 60% настўнікаў».

# ЯЎХІМ ХРАПТОВІЧ
## (1729-1812)

У сакавіку сёлета мінула 175 год ад сьмерці Яўхіма Храптовіча, выдатнага палітычнага й культурнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

У XI томе Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі пра Яўхіма Літавора Храптовіча сказана, што нарадзіўся ён 4 студзеня 1729 г.; вучыўся ў Віленскай акадэміі; быў дэпутатам соймаў, маршалкам галоўнага трыбуналу ВКЛ; быў адным із стваральнікаў Адукацыйнай Камісіі, загадваў дэпартамантам акадэміі і школаў ВКЛ. У 1791 г. Яўхім Храптовіч — міністар замежных справаў ВКЛ, а ў 1793 г. — канцлер. Канцлер, паводля Бел СЭ, дакладваў князю й радзе пра дзяржаўныя справы, рэдагаваў статуты, замацоўваў пячаткаю афіцыйныя дакумэнты, вёў перамовы з замежнымі дзяржавамі.



*Гэрб Храптовічаў*

Храптовіч быў на свой час чалавекам прагрэсыўным. «У сваіх маёнтках у Шчорсах і Вішневе, — адзначаецца ў БелСЭ, — Іаахім Храптовіч замяняў паншчыну чыншам. У Шчорсах пабудаваў палац, школу, вуніяцкую царкву, арганізаваў бібліятэку з архівам».

Літаратура пра Яўхіма Храптовіча, як гэта відаць з артыкулу пра Храптовічаў у БэлСЭ, вельмі бедная: пад артыкулам фігуруе толькі адна адзіная праца — 2-гі том «Русской родословной книги» Любанава-Растоўскага, другое выданьне якой выйшла ў 1895 годзе. Гэта паказвае на ступень занядбанасьці ў БССР некаторых важных аспэктаў сацыяльнае й культурнае гісторыі. Трэба спадзявацца, што пра гэтую занядбанасьць павядзецца гутарка ў беларускім савецкім друку, якому цяпер дадзеная магчымасьць выказвацца свабадней пра патрэбы нацыянальнай культуры. Пагатоў, што кадры дасьледнікаў ёсьць. Толькі гістарычны факультэт Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту за 50 год свайго існаваньня выпусьціў больш за сем тысячаў гісторыкаў і навуковых працаўнікоў у галіне гістарыяграфіі.

Жыцьцё й дзейнасьць Яўхіма Храптовіча прыпала на пэрыяд палітычнага крызісу, які перажывала Рэч Паспалітая, складовай часткай якой, у форме Вялікага Княства Літоўскага, была Беларусь. Хоць Княства гэтае і мела асобныя адміністрацыйнае кіраваньне, фінансы, таможную сыстэму (да 1766 г.), судовыя ўстановы й войска, аднак бы́ўшы аднэй з частак Рэчы Паспалітай, вымушаная была дзяліць лёс усяе супольнае дзяржавы, галоўным чынам палітычны заняпад яе.

Урад Рэчы Паспалітай у другой палавіне XVIII-га ст. намагаўся правесьці некаторыя рэформы. У 1775 г. ствараюцца Сталая Рада, Адукацыйная Камісія, прымаюцца пастановы, скіраваныя на палепшаньне гандлю, пашырэньне правоў гараджанаў, разьвіцьцё прамысловасьці.

Сярод тых, хто разумеў пільную патрэбу рэформаў, быў і Яўхім Храптовіч. Калі ў 1773-75 гадох, пасьля роспуску ордэну езуітаў, заснаваецца першая ў Рэчы Паспалітай і Эўропе дзяржаўная ўстанова для кіраўніцтва народнай асьветай, адным з тых, хто яе засноўваў і браў удзел у правядзеньні рэформы ўсяе асьветы ў духу, перадавых ідэяў Асьветніцтва, быў Аўхім Храптовіч (ад 1773 г. — падканцлер ВКЛ).

У 1776 г. Храптовіч стаўся адным з найбліжэйшым супрацоўнікаў польскага дзеяча Андрэя Замойскага, якому была даручаная Соймам справа апрацаваньня Збору судовых законаў і правядзеньня рэформы судовага ладу.

Калі на аснове Канстытуцыі 3-га травеня 1791 году быў створаны найвышэйшы ўрадавы орган г. зв. «Ахова Правоў» (пачатак сучаснае рады ці Савету Міністраў), дык Яўхім Храптовіч заняў у ім пасаду міністра замежных справаў.

Сярод беларускіх магнатаў Яўхім Храптовіч быў адным зь першых, хто ў сваіх маёнтках у Шчорсах у Наваградзкім і Вішневе ў Ашмянскім паветах праводзіць перабулову гаспадаркі: касуе паншчыну, замяніўшы яе чыншам, гэта значыць пераводзіць сялянаў на арэнднае становішча — крок на той час прагрэсыўны.

Значныя заслугі мае Яўхім Храптовіч і ў культурным ды асьветніцкім разьвіцьці. Апрача пабудовы ў Шчорсах свайго ведамага палацу, ён будуе таксама школу, арганізуе бібліятэку з архівам. Шчорсы, як культурны цэнтар, набываюць вядомасьць дзякуючы Яўхіму Храптовічу, які сабраў багатую бібліятэку з 6000 тамоў рэдкіх кніг, з мноствам каштоўных рукапісаў і геаграфічных картаў. Каб гэтыя каштоўнасьці былі даступныя для дасьледнікаў, Храптовіч склаў статут, паводля якога карыстацца кнігамі маглі як мясцовыя, гэтак і замежныя вучоныя. Пры бібліятэцы была таксама карцінная галярэя. Зь ініцыятывы Храптовіча была сабраная адна з самых раньніх на Беларусі археалягічных калекцыяў. Скарбамі шчорсаўскай бібліятэкі карысталіся дасьледнікі браты Сьнядэцкія, Лялевэль, Даніловіч, Адам Міцкевіч ды іншыя. тут працавалі бібліятэкарамі паэт і фалькьлярыст Ян Чачот, паэт і публіцыст Мікалай Вольскі.

Як з усяго гэтага ясна відаць, Яўхім Храптовіч заслугоўвае на куды большую ўвагу з боку гістарычнай навукі на Беларусі. Прыкрываць маўчаньне пра род Храптовічаў штампамі накшталт цьверджаньня ў БэлСЭ, што, бач, Храптовічы былі «жорсткімі прыгнятальнікамі беларускага народу», сёньня гучыць ужо нясур'ёзна, дэмагагічна й антынавукова.

**Язэп Барэйка**

*Ад Рэдакцыі:* Пасьля таго ўжо як быў атрыманы артыкул Язэпа Барэйкі, прыйшоў чацьверты сёлетні нумар часапісу «Неман» з артыкулам у ім Эрнэста Ялугіна пра дасьледніцкую працу Адама Мальдзіса (пад заг. «Як адкрываюцца кантынэнты»). Ялугін піша пра Мальдзіса, а прыгэтым і пра Храптовіча:

«Шмат гадоў Мальдзіс вывучае архівы ў гарадох нашай краіны. За рубяжом. Удачы й рашчараваньні. Загадкі. На самой рэчы: у архівах братняе Польшчы аднэй зь ягоных знахадак стаўся віншавальны верш маладога Яўхіма Храптовіча, які належаў да магнацкае верхавіны Вялікага Княства Літоўскага. Сярэдзіна XVIII стагодзьдзя. У Рэчы Паспалітай фэўдальная кляса размаўляе папольску. Але вось вершаваныя радкі юнага прадстаўніка вышэйшай знаці — напісаныя ў беларускай мове! Чаму? Больш зразумела, калі езуіты гэных часоў у некаторых касьцёлах на тэрыторыі Беларусі гаварылі казані ў мясцовай мове — шукалі найкарацейшага шляху да душаў прыхаджанаў. А магнату гэта дзеля чаго?»

На пытаньні гэтыя Ялугін у сваім артыкуле адказу не дае. Шукаць адказу трэба, відаць, у Мальдзісавых публікацыях, якія Ялугін ацаніў вельмі высака.

# ЗЬЕЗД ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

31-шы агульны зьезд Згуртаваньня Беларусаў Канады адбыўся ў Тароньце 23 травеня 1987 году. Паколькі зьезд супаў зь нядаўнай першай гадавінай чарнобыльскай атамнай катастрофы, ён быў прысьвечаны ейным ахвярам. Уладыка Мікалай у суслужэньні а. Міхася Страпка з Кліўленду адправіў у царкве сьв. Кірылы Тураўскага малебен за тых, што пацярпелі й цярпяць ад чарнобыльскага няшчасьця.

Старшыня Галоўнай Управы ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч адкрыла працоўную частку зьезду, прычатала прывітаньні ад др. Вітаўта Кіпеля, старшыні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, ад. сп. А. Зданковіча, заступніка старшыні Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, і ад сяброўкі ЗБК сп-ні Эвы Пашкевіч Мэк Карвіл з Ванкувэру. Вітаў зьезд асабіста сп. Васіль Русак ад беларускіх арганізацыяў у Нью-Джэрзы (ЗША).

Была абраная мандатная камісія ў складзе сп. сп. М. Ганька, А. Моніда й др. Б. Рагулі. Прэзыдыюм, у тым-жа складзе, праводзіў працу зьезду.

Як выявілася із справаздачаў, дзейнасьць ЗБК на працягу апошняй кадэнцыі (ад. 11.V.1985 да 23.V.1987) была сьціраваная на ўзмацненьне арганізацыйнай структуры ЗБК, пашырэньне сяброўства, паглыбленьне нацыянальнай сьведамасьці, адзначаньне нацыянальных юбілеяў ды ўдзел у канадзкім жыцьці.

На прапанову нагляднай рады зьезд прызнаў уступаючым кіруючым і кантрольным органам абсалютарыем з падзякай.

Зьезд прыняў наступны плян працы:
а) адзначыць угодкі: 70-я БНР; 100-я ад нараджэньня Алеся Гаруна; 125-я «Мыжыцкай Праўды»; 40-я ЗБК; 1000-я хрысьціянства ў Беларусі; 400-я Статуту Вялікага Княства Літоўскага;
в) узяць удзел у 18-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі;
г) браць удзел у дзейнасьці міжнацыянальных канадзкіх арганізацыяў.

У новую Галоўную Ўправу ЗБК выбраныя: др. Раіса Жук-Грышкевіч — старшыня, др. Барыс Рагуля — заступнік старшыні, сп. Віктар Касьцюкевіч — сакратар, сп-ня Юльляна Грыцук-Мэкарская — скарбнік, сп. сп. Арсень Монід, Сьцяпан Прагарук, Аляксандар Шаршуновіч — сябры гаспадарчага камітэту. У галоўную ўправу ўваходзяць таксама старшыні аддзелаў: сп. М. Ганько — Тарантаўскага, сп. Янка Сурвіла — Атаўскага, сп. Мікола Буцька — Садбурскага, сп. Мікола Шуст — Лёндэнскага.

У наглядную раду ўвайшлі: сп. Кастусь Акула, сп. Нікіфар Сільвановіч і сп. Кастусь Шаршуновіч. У сяброўскі суд — сп-ні Оля Грыцук і Людміла Рагуля.

На прапанову старшыні галоўнай управы зьезд прыняў Франьцішка Багушэвіча за духовага праваднікa — патрона Згуртаваньня Беларусаў Канады.

Фармальная частка зьезду закончылася беларускім нацыянальным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

### СЫМПОЗІЮМ

Пасьля супольнай вячэры адбыўся сымпозіюм на тэму: «Трагэдыя Беларусі ў выніку чарнобыльскай ядзернай катастрофы». Каардынатарам яго быў сп. М. Ганько. Інж. Ул. Шапараў у вельмі фаховым дакладзе «Радыяцыя з чарнобыльскае аварыі», абгрунтаваным на дадзеных Дэпартаманту Ядзернай Энэргіі Канады, разгледзеў аварыю ў Чарнобылі зь фізычнага боку ды прыйшоў да высновы, што гэта ня была ўжо такая вялікая катастрофа. Ядзерная энэргія, сказаў дакладчык, мае й будзе мець у будучыні вялікі ўжытак.

Др. Барыс Рагуля ў сваім дакладзе прааналізаваў чарнобыльскую аварыю з мэдычнага гледзішча, гаварыў пра шкодныя ўплывы радыяцыі на чалавечы арганізм, фізычнае калецтва, разумовая рэтардацыя, — сказаў др. Рагуля, — гэта вынікі, да якіх церпіць і будзе цярпець насельніцтва паўдзёнавй часткі Беларусі ды паўночнай Украіны.

У заключэньні др. Раіса Жук-Грышкевіч прачытала верш Міхася Башлакова «Хроніка аднаго перасяленьня», што быў надрукаваны ў менскім тыднёвіку «Літаратура й Мастацтва» за 24.IV.1987 г., два дні да першай гадавіны чарнобыльскага выпадку.

У жывой дыскусіі, што разгарнулася пасьля дакладаў, украінскі сьвятар Прат. Аляксандар Быкавец з Дэтройту істотна дапоўніў сымпозіюм, насьвятліўшы палітычны бок чарнобыльскай катастрофы.

**Р. Ж-Г.**

## *ЗАБАРОНЕНА Ў МЕНСКУ, ДАЗВОЛЕНА Ў МАСКВЕ*

**Да 100-годзьдзя ад нараджэньня А. Гаруна**

Ніл Гілевіч, першы сакратар управы Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі, жаліўся на ўсесаюзным пісьменьніцкім пленуме ў Маскве ў красавіку сёлета, што ў Менску было забаронена адзначыць 100-годзьдзе ад нараджэньня паэта Алеся Гаруна (н. 11.III.1887). Гілевіч падзякаваў прыгэтым рэдакцыі маскоўскай усесаюзнай «Литературной газеты» за зьмяшчэньне артыкулу (8.IV.87) пра Гаруна беларускага літаратурнага крытыка Вячаслава Рагойшы. Да артыкулу былі дададзеныя тры Гаруновы вершы (у перакладзе Барыса Спрынчана). Адзін зь вершаў — пра родную мову:

Гэй, ты маці, — родна мова,
Гэй, ты, звон вялікі слова,
Звон магучы,
Звон бліскучы,
З срэбра літы,
З злота біты,
Заграмі ты,
Загрымі!

Закліку гэтага спалохаліся, відаць, менскія бюракраты-русыфікатары, што забаранілі ўшанаваць памяць паэта, які бальшыню сваіх вершаў напісаў на царскай катарзе.

# З ЖЫЦЬЦЯ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

## ДЗЕНЬ МАЦІ

Амэрыканскае сьвята Маці прыпадае на другую нядзелю травеня. Яно заўсёды ўрачыста адзначаецца ў беларускай калёніі ў Кліўленьдзе. Лапрыняцьцё, на якім маткі былі ганаровымі гасьцямі, а абслугоўвалі іх мужы, дзеці. Заміж зрэзаных кветак сёлета ўручылі маткам кветкі ў вазонах. Ад парафіі прывітаў матак старшыня прафіяльнае рады Сяргей Карніловіч. Ён падзякаваў маткам за добрую працу, якую яны праводзяць у сваіх сем'ях, у беларускіх арганізацыях, у царкве; пажадаў ім добрага здароўя, добрых удачаў.



*Кліўлендзкія жанчыны-маці, у гонар якіх ладзілася ўрачыстасьць.*

дзіць сьвяткаваньне парафіяльная рада царквы Жыровіцкае Божае Маці з удзелам іншых арганізацыяў. Сёлета сьвяткаваньне адбылося 10 травеня. Айцец Міхась Страпко адправіў малебен за матак, сказаў прыгожую казань.

У царкоўнай залі было наладжанае

Сьвяткаваньне прайшло добра, было шмат удзельнікаў. Гэта была вельмі добрая нагода ўшанаваць матак, падзякаваць ім за добрую працу. На падзяку гэткую яны запраўды заслужылі.

**К. П.**

## БІБЛІЯТЭКА ІМЯ РЭЙГАНА

Прыяцелі Прэзыдэнта Рэйгана пачалі ўжо зьбіраць грошы на пабудову бібліятэкі, у якой будуць захоўвацца дакумэнты й архіўныя матар'ялы, зьвязаныя з адміністрацыяй Рэйгана. Узначальвае ініцыятыву пабудовы ведамы кінаактор Джымі Стуарт.

Беларуска-Амэрыканская Рэспубліканская Фэдэрацыя атрымала ліст ад ініцыятараў з заклікам далучыцца да праекту пабудовы і гэткім чынам быць уведзенай у сьпіс ініцыятараў. Сьпіс будзе захоўвацца ў бібліятэцы.

Як ведама, Прэзыдэнт Рэйган і ягоны пэрсанал у Белым Доме — добрыя прыяцелі Беларусаў. Было-б вельмі пажадана, каб Беларусы ўзялі ўдзел у пабудове бібліятэкі. Калі хто жадае больш інфармацыі, просім зварачацца да сп. Васіля Мельяновіча на адрас:

Byelorussian-American Republican Federation
P.O. Box 317
Hereford, Md 21111

Грошы й чэкі трэба пасылаць таксама на вышэй паданы адрас. Ахвяры можна адлічаць ад гадавога падатку (tax deductable).

## «ЗВАЖАЙ» № 2(46)

У сёлетнім чэрвенскім нумары часапісу Беларускіх Вэтэранаў артыкулы: А. Гідоні — Юнак прабіў надзьмуты маскоўскі пузыр; А. Акула — Варварскі рэжым; Я. Барэйка — Да 100-годзьдзя з дня нараджэньня Алеся Гаруна; ВС-УЦ — Ля вытокаў ленінскае нацыянальнае палітыкі; верш К. Акулы «Галоснасьць»; прывітаньне Архіепіскапу БАПЦ Мікалаю зь 70-мі ўгодкамі жыцьця; рэцэнзіі; хроніка.

## «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА» № 32, 1987

У нумары на 36 старонках: арт. «Чарнобыль»; мэмарыял Беларускага Кангрэсавага Камітэту місіям у ААН (паангельску) у справе чарнобыльскае катастрофы (падпісалі: Іван Касяк — старшыня, Міхась Сенька — сакратар); прывітаньне з нагоды ўгодкаў Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ад начальніка Беларускага Вызвольнага Фронту Д. Касмовіча; перадрук часткі самвыдавецкае працы Алега Бембеля «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс»; апавяданьне Янкі Золака «Пацук у пастцы»; вершы бяз прозьвішча аўтара (з зазначэньнем, што «Заканчэньне будзе»); верш Пімена Панчанкі «Паэма сораму і гневу» (з камэнтаром); верш Ю. В-скага «Навагодні ўспамін-жаданьне»; рэцэнзія Міхася Кавыля на зборнік паэзіі Масея Сяднёва «Ачышчэньне агнём»; рэпартаж пра рукапалажэньне ў дыяканы Мячыслава Брынкевіча; арт. М. Кавыля пра юбілей а. Сьвятаслава Коўша і хроніка.

## РЭСПУБЛІКАНСКІ ЗЬЕЗД

Аддзел Нацыянальнасьцяў Рэспубліканскае партыі паведамляе, што сёлетні гадавы зьезд Нацыянальных Рэспубліканскіх Клюбаў адбудзецца 30 кастрычніка-1 лістапада ў Вашынгтоне ў гатэлі Гранд-Гаят-Вашынгтон. Управа Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў просіць сяброў урэгуляваць гадавыя складкі, як арганізацыйныя, гэтак і пэрсанальныя.

## ПАПРАЎКА

У карэспандэнцыі М. К. пра мастацкую выстаўку ў Саўт-Рывэры («Б-с» № 334) праз памылку не названыя прозьвішчы двух удзельнікаў выстаўкі: таленавітае мастачкі Людмілы Махнюк і ня менш здольных фатографаў Дж. Манцыводы ды М. Дутка.

# З ЖЫЦЬЦЯ Ў ШТАЦЕ НЬЮ-ДЖЭРЗЫ

У канцы сакавіка сёлета ў горадзе Эдысане адбыўся, пад эгідаю штатнага Цэнтру Мастацтваў, гадавы баль этнічных групаў. Кіраўніком мастацка-тэатральнае часткі балю была ведамая беларуская мастачка сп-ня Ірэна Рагалевіч-Дутко.



*Стаяць зьлева направа: Н. Дутко, Н. Кудасава, сакратар штату Джэйн Бурджыё, Лёня Літаровіч, Ліза Літаровіч, А. Шульжыцкая, Ліда Літаровіч, В. Камянкова, У. Шульжыцкі; сядзяць: В. Рагалевіч і А. Семёнава.*

*Фота Ірэны Рагалевіч-Дутко.*

* * *

Сёлета ў красавіку губэрнатар штату Томас Кейн прадоўжыў паўнамоцтвы штатнае Камісіі для перагляду падручнікаў гісторыі ў дачыненьні да гісторыі паняволеных народаў.



*Сябры Камісіі (зьлева направа ў верхнім радзе): прадстаўнік штатнага аддзелу вышэйшай асьветы, Баўгарац, прадстаўнік штатнага аддзелу сярэдняй асьветы, Эстонец, Літовец, Беларус (В. Кіпель); у ніжнім радзе (зьлева): Кубінец, Украінец, Паляк, губэрнатар Томас Кейн, Латыш, Вэнгерац.*

* * *

16 травеня сёлета сп-ні Н. Кудасава, Т. Кольба і А. Шульжыцкая прадстаўлялі беларускае мастацтва й Беларусаў на этнічным фэстывалі ў штатным каледжы ў Гласборо (той самы каледж, дзе ў 1967 г. спатыкаліся Прэзыдэнт Джонсан з савецкім Прэм'ерам Касыгінам).

## *БЕЛАРУСКІ ДРУК У ЗША*

У выдавецтве Кенцкага Штатнага Ўнівэрсытэту (штат Агаё) выйшаў другім выданьнем «*Даведнік этнічнага друку Амэрыкі — пэрыядычны друк славянскіх і ўсходняэўрапейскіх народаў*» (280 б.).Аўтар кнігі — др. Любамір Вынар, выкладчык Кенцкага Ўнівэрсытэту. У даведніку пералічаныя 16 моўных групаў ЗША, у тым ліку й беларуская. Даведнік інфармуе, што беларускі пэрыядычны друк у Амэрыцы пачаўся ў гор. Нью-Ёрку выданьнем «Беларускага Інфармацыйнага Бюлетэню» Беларускага Прэсавага Агенцтва. Цяпер у ЗША, паводля даведніка, налічаецца 15 беларускамоўных і беларуска-англамоўных выданьняў з агульным разавым тыражом 7 575 экзэмпляраў. У даведніку пададзеная таксама асноўная інфармацыя пра Беларусаў у Злучаных Штатах.

Ангельскі загаловак публікацыі:
**Guide to the American Ethnic Press. Slavic and East European Newspapers and Periodicals,** by Lubomyr R. Wynar. Kent, Ohio State University School of Library Science, 1986. 280 p.

## *«НАВУКОВАЯ» ЛУХТА Л. ЯЎМЕНАВА*

У расейскамоўнай манаграфіі Лявона Яўменава, доктара філязофскіх навукаў, «Актуальные проблемы контрпропаганды», выдадзенай у 1985 г. Акадэміяй навук БССР (выд. «Навука і тэхніка») знаходзім гэткую пэрлу «паінфармаванасьці» савецкага навукоўца пра беларускае жыцьцё ў Амэрыцы:

«У ЗША дзейнічае цэнтар нацыяналістычнае мафіі, абрэвіятура якой гучыць як 'БАЗА' — 'Беларуска-амэрыканскае згуртаваньне ў Амэрыцы' (*на самой рэчы скарот «БАЗА» значыць* **Б**еларуска-**А**мэрыканскае **ЗА**д*зіночаньне — рэд. «Б-са»*). 'БАЗА' праводзіць вялікую антысавецкую работу: арганізуе рознага роду антыкамуністычныя дэманстрацыі, мітынгі, зборшчы, вядзе агітацыю сярод эміграntаў за невяртаньне на Радзіму (*?! — рэд. «Б-са»*). Асабліва пажвавілася дзейнасьць гэтай антысавецкай арганізацыі з прыходам да ўлады ў ЗША адміністрацыі Рэйгана. На грошы ЦРУ пад эгідай 'БАЗА' створаны гэтак званы 'Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва'. Пад кіраўніцтвам здрадніка Радзімы, фашысцкага служкі Хмары (*які ніколі ў ЗША ня жыў, а жыве ў Канадзе — рэд. «Б-са»*) функцыянуе літаратурнае аб'яднаньне 'Баявая Ускалось'. Выходзяць газэты 'Зважай' (*не газэта, а часапіс, выходзіць у Канадзе — рэд. «Б-са»*), 'Беларус', 'Беларускі Голас' (*выходзіць у Канадзе — рэд. «Б-са»*). Шэраг адшчапенцаў беларускага народу тыпу Янкі Запрудніка дзейнічаюць на радыёстанцыі 'Свабода'». (бб. 32-33).

Ёсьць добры народны выраз на гэтую «паінфармаваную» пісаніну «філёзафа» Яўменава: у гародзе лабуда, а ў Кіеве дзядзька…

## ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ

На сёлетнім красавіковым пленуме ўсесаюзнае пісьменьніцкае арганізацыі, на якім беларускі паэт Ніл Гілевіч выказаў войстры пратэст супраць запушчанасьці беларускае мовы ў адукацыйнай сыстэме БССР, з падтрыманьнем пазыцыі Гілевіча выступіў, сярод іншых прамоўцаў, і Гілевічаў літоўскі субрат Альфонсас Малдоніс. Вось што сказаў Малдоніс («Литературная газета», 6.V.87):

«Я вельмі блізка да сэрца прымаю трывогу, якая гэтак моцна прагучэла ў выступленьні Ніла Гілевіча. Асабліва гэта зразумела нам, паколькі слова беларускай літаратуры — гэта маладая галіна старавечнабеларускае мовы, якою напісаныя першыя старонкі гісторыі літоўскага народу. Беларускае слова выпакутаванае побач з намі, навет часткава пад дахам нашае старадаўнае Вільні. Калі высахнуць крыніцы, што кормяць яго, мы станемся нашмат бяднейшыя, страцім брацтва, якое было апірышчам гэтулькі вякоў. Як мы гэта вытлумачым — у нашай якраз краіне, якая падае прыклад цэламу сьвету сваім інтэрнацыяналізмам, далучэньнем да культуры й пісьменнасьці гэтулькіх малых народаў.

Мне думаецца, што працэсы, якія адбываюцца ў нацыянальных літаратурах, павінны быць пад пільнай увагай нашага агульнага саюзу. Нам трэба прысьвяціць адзін з пленумаў ці склікаць канфэрэнцыю на гэткую тэму: 'Разьвіцьцё нацыянальнае мовы й літаратуры'. І расейскім, і ўкраінскім, і беларускім, і літоўскім пісьменьнікам гэтая тэма вельмі важная».

***Ліст у Рэдакцыю***

## НА ЎВЕСЬ МЕНСК ДЗЬВЕ ЦАРКВЫ

Я маю нагоду досыць часта чытаць газэту «Голас Радзімы», якую атрымвае мой сусед, і хачу падзяліцца думкамі аб нядаўна прачытаным.

У нумары «ГР» за 12 сакавіка сёлета пісалася аб рэлігіі ў Савецкім Саюзе (і БССР) ды апісвалася, як у Менску прыймалі фінскую дэлегацыю, што была там «зь дзелавым візытам».

Гэтай дэлегацыі паказвалі менскія цэрквы. Дзіву даешся, як усё-ж далёка заходзіць савецкае нахабства! Саветы пахваляюцца сёньня ў Менску цэрквамі, тымчасам як 50 год таму яны-ж, Саветы, узарвалі валізарны помнік беларускага царкоўнага дойлідства — Петрапаўлаўскі сабор на плошчы Свабоды. Але ў Менску было яшчэ каля трох дзесяткоў сьвятыняў, і ўсё гэта, апрача царквы на Вайсковых могілках і Сьвятадухаўскае царквы, было зьнішчанае Саветамі.

І напэўна турыстам прыходзіцца думка: «Няўжо-ж на цэлы Менск, цяпер паўтарамільённы горад, ёсьць усяго дзьве царквы?»

**А. Асіпчык**

## *«ЗЬВЯЗДА» СУПРАЦЬ ЛУЦКЕВІЧАЎ*

Орган ЦК ПБ газэта «Зьвязда» (6.VI.87) зьмясьціла артыкул Мікалая Сташкевіча (пад. заг. «Людзі зь мінулага») з абвінавачаньнем Антона Луцкевіча («жадаў, каб памешчыкі захоўвалі свае вялікія маёнткі» — а Луцкевіч-жа быў сацыял-дэмакратам!) ды ягоных сыноў Юр'я й Лявона («Бацька служыў кайзэраўцам, а гэтыя — гітлераўцам»). Навошта гэты выпад спатрэбаўся? — Адказ на гэтае пытаньне знаходзім у самога Сташкевіча: «…Цяпер, калі мы нанава перагортваем старонкі гісторыі і вяртаем грамадзтву забытыя імёны.., здараецца, што той, хто запляміў нашу гісторыю, выстаўляецца на ўсеагульны агляд як нейкі ідэал».

Сташкевічаў артыкул зьмешчаны таксама ў газэтах «Советская Белоруссия», «Літаратура і Мастацтва», «Чырвоная зьмена».

## НОВАЯ КНІГА

У выдавецтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва выйшла з друку кніга апавяданьняў і аповесьцяў Аляксандры Саковіч. У кнізе — цікавыя й рэдкія фатаграфіі, бібліяграфія аўтара ды вялікі англамоўны ўступ. Кніга выйшла пры шчодрай дапамозе беларускае грамадзкасьці ды асабліва беларускае грамады ў Кліўлендзе, якая ладна ахвяравала на выдавецкі фонд БІНіМ'у. Цана кнігі $ 25.00.

## АХВЯРЫ НА РАДЫЯПРАГРАМУ

Ахвяры на даплачваньне за беларускія радыяперадачы ў Пэрце ў Зах. Аўстраліі прыслалі наступныя асобы:

| | |
|---|---|
| 1. М. Скабей | $ 100 |
| 2. др. А. Бразоўскі | 50 |
| 3. А. Чабатар | 10 |
| 4. К. Чабатар | 5 |
| 5. П. Чабатар | 5 |
| 6. Е. Ніжнік | 5 |
| 7. Г. Шчэрба | 5 |
| 8. Н. Ніжнік | 10 |
| 9. Шчэрба (Мэльбурн) | 10 |

Да 21.V.87 было сабрана ўсяго $ 1227. Пасьля аплаты выдаткаў у касе на дзень 23.V.87 засталося $ 1100.

**М. Р.**

## «БЕЛАРУС» ПАТРАБУЕ ДАПАМОГІ

Газэта «Беларус», як Вы ведаеце, выходзіць выключна коштам падпісчыкаў і ахвярадаўцаў. Усе сябры рэдкалегіі й выдавецтва сваю працу выконваюць як грамадзкі абавязак. Але за друк газэты й рассылку трэба плаціць. Вось чаму мы нагадваем Вам, што каса выдавецтва хутчэй пусьцее як папаўняецца — цяпер пры рэгулярным месячным выхадзе публікацыі. Дзеля гэтага мы заклікаем усіх Вас, нашых чытачоў і прыхільнікаў, узмоцніць фінасавае падтрыманьне «Беларусу».

З падзякаю й найлепшымі пажаданьмі кожнаму з Вас —

**Выдавецтва «Беларус»**

## БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ У ЗАХ. НЯМЕЧЧЫНЕ

Пару год таму стараньнямі сп. Юр'я Попкі ў заходнянямецкім горадзе Ляймэне быў створаны невялікі беларускі музэй. Яго наведвае шмат турыстаў і школьнікаў. У музэі стала ладзіцца выстаўкі беларускіх пісанак, беларускага друку, беларускіх вырабаў з саломкі, вышывак; сёлета ў сакавіку былі паказаныя беларускія пісанкі. Пры музэі зь ініцыятывы сп. Попкі і др. Барыса Кіта паўстаў таксама Інстытут Беларусаведы, які выдае «Весткі» ды перавыдаў некалькі кніжак зь гісторыі Беларусі.

## *«УСХОДНІ ВУЧОНЫ» ПРА СЛУЦКАЕ ПАЎСТАНЬНЕ*

Газэта «Голас Радзімы», рэагуючы на сыстэматычнае адзначаньне беларускай эміграцыяй угодкаў Слуцкага Паўстаньня, выдала кніжыцу (64 б.) др. гістарычных навукаў Анатоля Грыцкевіча пад заг. «Вакол 'Слуцкага паўстаньня'». Прычынай выданьня гэтае публікацыі паслужыла тая акалічнасьць, што ў Амэрыцы да ўдзельнікаў адзначаньня Слуцкіх угодкаў апошнім часам, як кажа рэдакцыя кніжкі, «далучаюцца то губэрнатар, то кангрэсмэн Злучаных Штатаў. А ў 1984 г. у ЗША выйшаў афіцыйны даведнік, у якім пазначана: 27 лістапада — Дзень Слуцкага Паўстаньня. Выдаў гэты даведнік Усеамэрыканскі савет груп этнічнай спадчыны нацыянальнага камітэту рэспубліканскай партыі. Такім чынам, кіраўнічая партыя Злучаных Штатаў Амэрыкі ня толькі прызнае, але і падтрымлівае беларускіх нацыяналістаў у іх антысавецкай дзейнасьці, сама толкам ня ведаючы, што гэта была за падзея — 'слуцкае паўстаньне'».

Гісторык Анатоль Грыцкевіч і ўзяўся расказаць пра гэтую падзею. Аўтар прызнае, між іншага, што «ў беларускай савецкай гістарычнай літаратуры пытаньню аб разгроме слуцкага мецяжу ўдзелена параўнаўча мала ўвагі… Спэцыяльных прац на гэтую тэму да апошняга часу ня было» (б. 6).

Сваю працу А. Грыцкевіч напісаў, базуючыся блізу выключна на друкаваных крыніцах. На 95 бібліяграфічных зносак у кніжцы — толькі дзьве спасылкі на архіўныя дакумэнты.

Слуцкае Паўстаньне, паводля Грыцкевіча, было зарганізаванае «польскай ваеншчынай». Цьверджаньне знаёмае. З самага пачатку нашага адраджэньня беларускі вызвольны для «ўсходніх вучоных» (як іх ахрысьціў Купала ў сваёй сатыры «Тутэйшыя», яшчэ ўсё забароненай у БССР) быў «польскай інтрыгай», а для «заходніх вучоных» — «інтрыгай маскоўскай». Анатоль Грыцкевіч належыць да «ўсходніх вучоных»…

## ПАПРАЎКА

Нам была зьвернута ўвага, што сьв. пам. Аўген Каханоўскі памёр у веку 77 гадоў, а не 75, як было пададзена ў кляпсыдры ў № 335 «Б-са». Выбачаемся за памылку.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

## *«ІНФАРМАЦЫЙНЫЯ СШЫТКІ»*

Ад сярэдзіны 70-х гадоў у Заходняй Нямеччыне ў горадзе Штутгарце выходзяць панямецку пад рэдактарствам сп. Уладзімера Сенькі «Інфармацыйныя Сшыткі». У «Сшытках» даецца ў асноўным агляд беларускага савецкага друку, з кароткімі камэнтарамі, а таксама робіцца агляд беларускае палітычнае дзейнасьці вонках савецкае Беларусі. Гэтак, у чародным выданьні «Інфармацыйных Сшыткаў» за 1986 год дадзены агляд разьвіцьця ў дзесяцёх галінах: партыя й дзяржава, эканоміка, культура, ідэялёгія й г.д. Бясспрэчна, што гэтая публікацыя — важная крыніца інфармацыі пра Беларусь і беларускую справу. Аб умовах прэнумэраты выданьня трэба зварачацца на адрас:

Informationshefte, BSSR
Postlagernd, 7000 Stuttgart 50,
West Germany

## ПАТРЭБНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЕДЫ

Беларускі савецкі крытык Міхась Тычына ў артыкуле, азагалоўленым «Пад знакам абнаўленьня» («Полымя», 1987, № 3, б. 184) піша пра ролю праўды ў тым працэсе, якім пазначаны цяпер ход разьвіцьця ў Савецкім Саюзе:

«Трэба ўмець глядзець праўдзе ў вочы і называць усё сваімі імёнамі: махлярства махлярствам, самаедзтва самаедзтвам, фанабэрыю фанабэрыяй. Толькі ўяўляючы рэальную сілу зла, яго гістарычныя, нацыянальныя, псыхалягічныя карані, можна спадзявацца на канчатковую перамогу дабра і справядлівасьці. Гістарычныя веды пра тое, як усё пачыналася і да чаго вяло, надзвычай патрэбныя сёньня, калі бойка дабра і зла набыла глабальныя маштабы».

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД

*Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва атрыманыя ахвяры:*

| | |
|---|---|
| А. Шукелайць | $ 50 |
| Н. Орса | 100 |
| Др. Б. Грабінскі | 25 |
| Л. і У. Брылеўскія | 100 |
| А. Асіпчык | 300 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| Я. Азарка | 45 |
| Др. М. Смаршчок | 25 |
| Н. Кіт | 20 |
| А. Сільвановіч | 20 |
| Др. У. Набагез | 100 |
| Разам | $ 835 |

Управа БІНіМу шчыра дзякуе ахвярадаўцам ды спадзяецца на далейшае падтрыманьне беларускім грамадзтвам нашых выдавецкіх плянаў.

Чэрвень 1987 г.

**Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**

**BINiM**
**230 Springfield Ave.**
**Rutherford, N.J. 07070**

# ЛІСТ ДА ГАРБАЧОВА

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

— зарганізаваць шырокую сетку курсаў для рыхтаваньня й перарыхтоўваньня кадраў у вывучаньні і ўдасканальваньні веды беларускай мовы; зрыхтаваць і выпусьціць «Курс прысьпешанага вывучэньня беларускай мовы» з камплетам грамкружэлак, а таксама ў патрэбнай колькасьці тлумачальны слоўнік беларускай мовы, расейска-беларускі й беларуска-расейскі слоўнікі.

**3. У галіне навукі**

— зрэалізаваць навуковыя распрацаваньні для аховы мовы ад неапраўданых іншамоўных запазычаньняў, а таксама для разьвіцьця беларускае мовы на собскай аснове ў адпаведнасьці з разьвіцьцём навукі, тэхнікі ды ўсіх сфэраў жыцьця грамадзтва;

— актывізаваць і пашырыць дыялекталягічныя дасьледаваньні беларускае мовы, упаасобку ў галіне народнай тэрміналёгіі (тэхнічнай, астранамічнай, заалягічнай, батанічнай і г. д.) з наступным выданьнем адпаведных слоўнікаў;

— шырэй разгарнуць дасьледаваньні гісторыі беларускае культуры й літаратуры мінулых эпохаў; узяцца за выданьне сэрыі «Помнікі беларускай мовы», «Помнікі беларускай літаратуры», «Помнікі грамадзкай думкі Беларусі» (факсыміле, пры патрэбе адаптаваньне, камэнтары) ды іншае;

— зарганізаваць рэгулярныя даўгатэрміновыя камандыроўкі беларускіх вучоных-спэцыялістаў гісторыі Беларусі, гісторыі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва — у замежныя краіны для працы ў архівах і бібліятэках;

— выдаваць кнігі навуковых супрацоўнікаў Аддзелу грамадзкіх навукаў АН БССР (зь гісторыі, філязофіі, права, мастацтвазнавства ды інш.), а таксама іншых аддзелаў (рэгіянальнай тэматыкі) у беларускай мове;

— перавесьці ў беларускую мову выданьне ўсіх сэрыяў часапісаў «Вестник БГУ им. В. И. Ленина» і часапісу «Здравоохранение Белоруссии»; выдаваць усе сэрыі часапісу «Весьці АН БССР» пабеларуску (прывесьці ў адпаведнасьць фактычную мову часапісу да тае, што абвяшчаецца ў тэматычных плянах;

**4. У галіне кнігавыдавецтва, культуры й мастацтва**

— зарганізаваць сталы выпуск у беларускай мове папулярных масавых выданьняў (адрыўныя календары, кнігі з дамаводзтва, кулінарыі, садаўніцтва, краяведы, аб лекавых расьлінах, грыбох і г.д., прыгодніцкая й навукова-фантастычная літаратура, слоўнікі замежных словаў і г.д.); спыніць дасюлешнюю практыку дубляваньня цэнтральных выдавецтваў у выпуску гэтых кнігаў у расейскай мове;

— карэнным чынам зьмяніць стаўленьне да выдаваньня перакладной літаратуры (мастацкай, папулярнай, навукова-пазнавальнай, навуковай, навукова-фантастычнай, дзіцячай і юнацкай) у беларускай мове; паставіць на дзяржаўную аснову рыхтаваньне кадраў перакладнікаў з замежных моваў і моваў народаў СССР у беларускую мову; практыкаваць штогадовае стажаваньне маладых перакладнікаў у замежных краёх і рэспубліках СССР; зрыхтаваць і выдаць вялікія іншамоўна-беларускія слоўнікі ўсіх асноўных моваў сьвету і моваў народаў СССР; устанавіць літаратурную прэмію (прыкладам, імя М. Багдановіча) для перакладнікаў у беларускую мову;

— наладзіць выданьне ў беларускай мове падпісных «Бібліятэкі сусьветнай клясыкі», «Бібліятэкі сусьветнай дзіцячай літаратуры», «Бібліятэкі прыгодаў і фантастыкі», «Бібліятэкі сусьветнай гістарычнай літаратуры», збораў твораў клясыкаў сусьветнай літаратуры;

— стварыць рэспубліканскае выдавецтва «Мастацтва» з мэтай карэннага палепшаньня справы папулярызацыі й прапаганды скарбаў нацыянальнай культуры;

— стала прапагандаваць матар'яльную й духовую спадчыну беларускага народу; выдаць манаграфіі й альбомы: «Слуцкія паясы», «Мініятуры беларускіх рукапісных кнігаў», «Беларусь на старадаўных гравюрах», «Упрыгожаньні беларускіх стадрукаў», сэрыю альбомаў «Архітэктура Беларусі» (розных эпохаў і стыляў), сэрыю альбомаў «Скарбы беларускай культуры ў музэях сьвету», альбом твораў клясыкаў беларускага выяўленчага мастацтва ды інш., «Папулярную энцыкляпэдыю гісторыі Беларусі», факсымільныя выданьні рукапісных і стадрукаваных кнігаў, перш-наперш спадчыну першадрукара Ф. Скарыны, і г.д.;

— з мэтай прапаганды беларускай літаратуры й культуры, збольшаньня ліку перакладнікаў беларускай літаратуры ў мовы народаў сьвету, пашырэньня міжнародных культурных сувязяў зарганізаваць штогадовы сэмінар для замежных перакладнікаў зь беларускай мовы; устанавіць для іх літаратурную прэмію (прыкладам, імя М. Гусоўскага); аналягічную прэмію ўстанавіць для перакладнікаў зь беларускае мовы ў мовы народаў СССР;

— наладзіць у рэспубліцы выпуск грамафонных кружэлак з мэтай карэннага палепшаньня прапаганды беларускай народнай і прафэсійнай музыкі;

— выпушчаць мастацкія, мультыплікацыйныя, дакумэнтальныя фільмы ў рэспубліцы ў беларускай мове, фільмы іншых кінастудыяў (савецкіх і замежных), што прыходзяць у рэспубліканскі кінапракат, дубляваць у беларускую мову;

— перавесьці ў беларускую мову працу тэатраў опэры й балету, музычнай камэдыі, лялек, тэатру-студыі кінаактора, нядаўна створанага маладзежнага тэатру, абласных тэатраў; стварыць рэспубліканскі літаратурны тэатр;

— стварыць рэспубліканскія музэі: гістарычны, этнаграфіі, беларускага выяўленчага мастацтва (старадаўнага й савецкага), дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, а таксама іхныя філіялы: драўлянай скульптуры, народнага малярства, кавальскага рамяства, кафлі, слуцкіх паясоў, старадаўнае зброі, старадаўнага мастацкага шкла, гісторыі тэхнікі, навукі, мэдыцыны, тэатру й музычнай культуры Беларусі ды інш.;

— стварыць мэмарыяльныя й гісторыка-мастацкія музэі (філіялы дзяржаўных музэяў): Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, С. Буднага, В. Цяпінскага, К. Лышчынскага, К. Семяновіча, Т. Касьцюшкі, Т. Ваўжыцкага, М. Агінскага, К. Каліноўскага, Т. Макоўскага, А. Тарасэвіча, Н. Орды, Ф. Рушчыца, Я. Драздовіча, С. Манюшкі, У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Цёткі (А. Пашкевіч), М. Гарэцкага ды іншых выдатных грамадзкіх і культурных дзеячоў Беларусі;

— стварыць у рэспубліцы — на бацькаўшчыне ўсходнеславянскага кнігадрукара Ф. Скарыны — музэй-бібліятэку скарбаў беларускага пісьменства наўзор армянскага «Матэнадарана» з мэтай захаваньня, комплекснага вывучэньня і ўводу ў навуковы ўжытак расьцярушаных па цэлым сьвеце беларускіх манускрыптаў і стадрукаў;

— зьвярнуцца ў адпаведныя інстанцыі з мэтай звароту на Беларусь скарбаў дзяржаўных і прыватных музэяў Беларусі, што ў выніку вялікадзяржаўніцкае палітыкі расейскага царызму, а таксама ў сувязі з ваеннымі дзеяньнямі (пасьля паўстаньняў XIX ст., у часе першай сусьветнай вайны, белапольскай акупацыі, Вялікай Айчыннай вайны ды інш.) апыніліся ў іншых рэспубліках і краёх.

**5. У сыстэме сродкаў масавай інфармацыі**

— зарганізаваць выданьне ў беларускай мове новых часапісаў: «Спадчына» (гістарычны навукова-мастацкі), «Веда і праца» (навукова-папулярны), «Далягляды» (замежная літаратура), «Юнацтва» (для школьнай моладзі), «Культура мовы», «Беларускае народнае мастацтва»;

— побач з выданьнем расейскамоўных рэспубліканскіх газэтаў «Советская Белоруссия», «Знамя юности», «Зорька» аднавіць выдаваньне ў беларускай мове «Сельской газеты», часапісаў «Коммунист Белоруссии», «Сельское хозяйство Белоруссии», абласных газэтаў «Заря», і «Гродненская правда»;

— перавесьці ў беларускую мову выданьне часапісаў і бюлетэняў «Политинформатор и агитатор», «Народное хозяйство Белоруссии», «Строительство и архитектура Белоруссии», «За безопасность движения», газэтаў «Физкультурник Белоруссии», «Химик» (Наваполацак), ведамасных газэтаў «Железнодорожник Белоруссии», «На страже Октября», «Речник Белоруссии», а таксама абласных і раённых газэтаў Гарадзенскай і Берасьцейскай вобласьцяў, што выходзяць цяпер у расейскай мове;

— перавесьці рэспубліканскую праграму тэлебачаньня поўнасьцяй у беларускую мову.

---

### ЗАХОДНІ ДРУК ПРА ЛІСТ 28-Х

Пра ліст 28-х дзеячоў беларускае культуры да М. Гарбачова ў справе абароны роднае мовы падалі лёнданскія часапісы The Economist (17.V.87) і Nature (7-13.V.87). Часапіс Nature (арт. Веры Рыч) паінфармаваў таксама пра рэакцыю на ліст 28-х першага сакратара ЦК КПБ Я. Сакалова.

*Ліст у Рэдакцыю*

### АРГАНІЗАЦЫІ Б.В.Р. НЯ БЫЛО

У газэце «Беларускі Голас» (№ 333, сакавік 1987) хтосьці Даруга (клічка) у арт. «Дзень Беларускіх Гэрояў» няправільна піша, што ў 1930-х гадох для барацьбы са сталінскай дыктатурай была ўтвораная антысавецкая арганізацыя Б.В.Р. з генэралам Кісялёвам на чале, у выніку чаго было расстраляна шмат ахвіцэрства.

Што было расстраляна шмат беларускага ахвіцэрства, гэта праўда, але не за сяброўства ў Б.В.Р.. Антысавецкіх беларускіх арганізацыяў тымі часамі было шмат, іхных сяброў НКВД арыштоўвала, судзіла, а часам і бяз суда расстрэльвала, але арганізацыі з назовам Б.В.Р. ня было. Ня было й генэрала Кісялёва ня толькі ў Менску, але і ўва ўсёй БССР. Аб гэтым сьветчыць ня толькі савецкая прэса, але й нашы навукоўцы, як сьв. пам. Аўген Калубовіч ды іншыя, што пісалі ў сваіх кнігах пра дзейнасьць антысавецкіх арганізацыяў.

Што да Л. Зарэчнага, дык арганізацыю Б.В.Р. ён, быўшы ў Нямеччыне, не ўзнавіў, а ўтварыў.

**Алесь Змагар,**
Галфпорт, Флярыда

*У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:*

— Карэспандэнцыя пра сьвяткаваньне ў беларускім праваслаўным прыходзе Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле 1000-годзьдзя хрысьціянства на Беларусі.

— Успамін др. Балеслава Грабінскага пра першы гурток беларускай моладзі ў Горадні.

— Арт. Язэпа Барэйкі да 90-годзьдзя ад нараджэньня беларускага гісторыка Аляксандра Шлюбскага, ахвяры сталінскіх рэпрэсіяў.

### *ЭСТОНСКІ САВЕЦКІ ЧАСАПІС ПРА ЛІСТ 28-Х*

Выдаваны ў Таліне літаратурны эстонскі месячнік «Вікеркаар» («Вясёлка», адпаведнік беларускае «Маладосьці») у сёлетнім травенскім нумары (бб. 92-94) зьмясьціў паведамленьне пра ліст 28-х вядучых дзеячоў беларускае культуры да Гарбачова (гл. «Б-с» № 334). У паведамленьні падаецца ўрыўкі зь ліста. Гэта — першая згадка ў савецкім друку ліста 28-х. Сродкі інфармацыі БССР дасюль яшчэ маўчаць пра гэты дакумэнт, незважаючы на «галоснасьць».

### БЕЛКІНО: ВОТУМ НЕДАВЕРУ

На прэсканфэрэнцыі ў Заходнім Бэрліне 3-га сакавіка сёлета Элем Клімаў, новы старшыня Саюзу кінэматаграфістаў СССР, гаворачы пра зьмены на лепшае ў савецкім кінамастацтве, падаў, як прыклад гэткіх зьменаў, тое, што «ў Беларусі кінэматаграфісты аб'ядналіся і на сваім Плenуме выказалі вотум недаверу цэламу кінакіраўніцтву Беларусі».

Характэрнымі дасюль для беларускага савецкага кіно былі блізу поўная занядбанасьць беларускае мовы ды ігнараваньне нацыянальных актораў і кінасцэнарыстаў.

На тэй-жа прэсканфэрэнцыі бэрлінец Ульрых Грэгор, які займаецца пракатам савецкіх фільмаў у Заходняй Нямеччыне, сказаў, што дастаць фільмы з саюзных рэспублікаў у мове арыгіналу — грузінскія пагрузінску, армянскія паармянску — немагчыма: Дзяржкіно і Саўэкспартфільм увесь час прывозяць фільмы з нацыянальных рэспублікаў толькі ў расейскім перакладзе.

### АМЭРЫКАНСКАЯ МОЛАДЗЬ У МЕНСКУ

840 маладых амэрыканскіх футбалістаў-школьнікаў (у веку ад 13 да 18 гадоў) наведаюць гэтым летам Савецкі Саюз, каб правесьці там спартовыя змаганьні з савецкімі камандамі. Першая група Амэрыканцаў прыедзе ў канцы ліпеня ў Менск і будзе гуляць там з менскім «Дынама». Кіраўнік амэрыканскае прыватнае арганізацыі «Каманды ЗША», якая зарганізавала падарожжа, Марк Гук сказаў, што наведаньне СССР будзе добрай нагодай азнаёміцца з савецкай культурай.